# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 22 (1005) ГОД XX 1 ЧЭРВЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.





Падводзячы вынікі даследавання за 25 гадоў гістарычна-літаратурнай славістыкі ў народнай Польшчы, М. Якубец сцвярджаў, што цяпер украінскай літаратурай займаецца ўсяго пяць поўнасцю падрыхтаваных навуковых работнікаў — ды пераважна дадаткова, або поруч з іншымі занятkамі, а праблемамі беларускай літаратуры цікавіцца толькі адзін спецыяліст.

Беларуская літаратура заставалася зусім мала вядомай у Польшчы, а нешматлікія пераклады з гэтай літаратуры, якія паяўляліся на працягу мінулага 30-годдзя, таксама не спрыялі паглыбленню знаёмства з беларускім пісьменніцтвам. Мала вядомыя былі ўзаемасувязі польскай і беларускай літаратур.

Справа змянілася, калі секцыю ўсходне-славянскіх літаратур аддзялення славяназнаўства Польскай Акадэміі навук узначаліў дацэнт Базылі Белаказовіч — наш зямляк з Бельска, таленавіты вучоны і добры арганізатар. Прыцягнуў ён да супрацоўніцтва шматлікую групу людзей, сярод якіх апынуліся таксама энтузіясты беларускай літаратуры. Адным з іх з'яўляецца **Уладзімір Стохель,** чалавек яшчэ малады, вельмі працавіты, энергічны, таленавіты даследчык. Амаль ад нараджэння (у 1945 г.) жыве ён у Варшаве. Атэстат сталасці атрымаў у 1963 г. у агульнаадукацыйным ліцэі № 14 у Варшаве, а ў наступным годзе распачаў навуку на аддзяленні беларускай філалогіі пры факультэце польскай і славянскай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

— Чаму вы выбралі гэты напрамак навукі? — пытаю доктара Уладзіміра Стохеля.

— Шчыра кажучы, выбраў я беларускую філалогію, — гаворыць ён, — толькі таму, каб неяк „зачапіцца" за універсітэт. На напрамку, аб якім я марыў, не хапіла для мяне месца, і тады запрапанавалі мне беларускую філалогію. Дык я згадзіўся, хаця да гэтага часу больш я ведаў, скажам, аб Кітаі і яго літаратуры, чымсьці пра суседнюю Беларусь і яе багатую літаратуру. Пачаў вучыцца, знаёміцца з мінулым Беларусі, з яе культурай, разам з іншымі студэнтамі пабываў у час канікулаў на Беласточчыне, дзе мы вывучалі беларускія гаворкі і мясцовую беларускую народную творчасць, і тады даведаўся, як многа супольнага ў гісторыі беларускага і польскага народаў. І ўсё гэта мяне проста захапіла, стала маёй жыццёвай стыхіяй. Канчаючы беларускую філалогію, я ўжо ведаў, што буду вывучаць беларускую літаратуру і яе сувязі з польскай і іншымі славянскімі літаратурамі.

Званне магістра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта атрымаў ён у 1969 годзе. Затым рашыў паглыбіць свае веды і паступіў у трохгадовую доктарскую студыю Варшаўскага універсітэта. Пасля гэтага атрымаў пасаду асістэнта секцыі ўсходнеславянскіх літаратур пры аддзяленні славяназнаўства Польскай Акадэміі навук у Варшаве. Тут былі яму створаны спрыяльныя ўмовы для паспяховай навуковай працы, аб чым сведчаць шматлікія

(Працяг на стар. 4)



## "БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"

*Трэцяе месца ў сёлетнім цэнтральным аглядзе ў катэгорыі сучаснай песні ў групе салістаў заняла Аліцыя Назарук з Гайнаўкі.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

# ТАМ, ДЗЕ ГЛЕБА НАДТА ПРЫВАБНАЯ...

Усё пачалося ад таго, што ў 1961 г. прыехаў у школу ў Скупаве, што на Гайнаўшчыне, новы кіраўнік **Іосіф Навіцкі** — чалавек усяцэла адданы настаўніцкай прафесіі і грамадскай працы. Ужо ў тую першую зіму пад яго ўздзеяннем ажывіўся гурток БГКТ, старэйшая моладзь кожны вечар пачала збірацца ў школе і рыхтаваць сваю першую тэатральную пастаноўку. „Прымакі" Я. Купалы ўдаліся скупаўскім артыстам на славу. Ролю Кацярыны выконвала **Н. Гарустовіч,** а Мацейкі — **В. Кісялеўскі.** Свой надта ўдалы дэбют скупаўцы паказалі не толькі ў сваім сяле, але аб'ехалі з ім усю ваколіцу: Ляўкова, Гайнаўку, Арэшкава, Белавежу. Заваявалі I месца на цэнтральным аглядзе тэатральных калектываў БГКТ. А потым ужо што ні зіма, то і новая п'еса: „Мікітаў лапаць", „Пярэстая красуля", „Паўлінка"...

Ці былі адно поспехі, а цяжкасці не здараліся? Усякае бывала. Нават быў час, калі скупаўскія самадзейнікі зусім „выйграліся", і два гады (1967-1969) іх і сілком на сцэну выгнаць нельга было. Засумавала вёска. Нават пажылыя гаспадары і то сталі дапякаць: „Маладыя, варушыцеся!" І маладым захацелася мець свой клуб. Каб прыдбаць абсталяванне, рашылі арганізаваць даходную пастаноўку. І такім чынам зноў калектыў адрадзіўся. Паставілі „Міхалку" — заваявалі III месца на павятовым аглядзе, потым „Паўлінку" — I месца на павятовым аглядзе і II на цэнтральным у Беластоку, а сёлета — „Мікітаў лапаць" і першае месца на цэнтральным аглядзе ў Бельску. Гурток набраў сілы і вопыту. Зноў са сваімі пастаноўкамі вандруе па ўсяму наваколлю. Прыемнасць вялікая, а дзе які грош — усё на абсталяванне і ўпрыгожанне чысценькага і надта ўтульнага скупаўскага клуба „Руху" — галоўнага цэнтра культуры і адпачынку дзелавітага пушчанскага сяла.

Хтосьці скажа: „Там, пэўна, многа моладзі, ёсць з кім працаваць". І так, і не. У сябе ў вёсцы працуе толькі **Д. Кісялеўская** (кіраўнік клуба), а ўсе іншыя — па цэлым павеце. **Р. Кісялеўскі** — на мэблевай фабрыцы ў Гайнаўцы, **В. Русак** — у Павятовым праўленні ЗСМВ, **Н. Сакоўская** — у ГС-е ў Нараўцы, **А. Навіцкая** — вучаніца Гайнаўскага беларускага ліцэя, **Г. Адамовіч** — на керамічнай фабрыцы ў Ляўкове, **Р. Гарустовіч** — у надлясніцтве Броўск, **С. Навіцкі** — вучань механічнага тэхнікума ў Гайнаўцы і г.д. А яны — асноўны актыў усіх культурных пачынанняў у сваім сяле. Любяць сваю родную вёску, дбаюць пра яе і знаходзяць вялікае задавальненне ў працы для яе славы і дабра.

— Першы раз я ступіла на сцэну яшчэ будучы вучаніцай нашай пачатковай школы, — кажа Д. Кісялеў-

(Працяг на стар. 4)



*Пачынальнік і выхаваўца скупаўскіх грамадскіх дзеячоў і самадзейнікаў, намеснік дырэктара гміннай школы ў Нараўцы І. Навіцкі са сваёй выхаванкай Д. Кісялеўскай — кіраўніком мясцовага клуба.*



*Старшыня гуртка скупаўскіх самадзейнікаў Н. Сакоўская працуе ў бухгалтэрыі ГС-у ў Нараўцы, а вольныя хвіліны прысвячае сцэне.*

 

## ШТО НОВАГА?

Цяпер, калі большасць паўнамоцтваў і гаспадарчых і адміністрацыйных задач перанесены ў гміны і гарады, узнікла пытанне, ці патрэбным будзе далейшае існаванне паветаў, якія з'яўляюцца злучаючым звяном паміж гмінай і ваяводствам. У 85 працэнтах паветаў ёсць ад 4 да 10 гмін. Цяжка сказаць, каб павет, які складаецца з некалькіх гмін, меў сэнс існавання. Для абслугоўвання 2.739 гмін і гарадоў, якія не з'яўляюцца сталіцамі паветаў, існуе апарат, які налічвае 121 тысячу чалавек (а ўлічаны тут толькі працаўнікі разумовай дзеячоў і працаўнікоў характарызуецца высокім узроўнем адукацыі і спецыялізацыі. Сярод іх ёсць людзі здольныя і чулыя на грамадскія справы, з вялікай жыццёвай практыкай і высокім пачуццём адказнасці, людзі самастойныя ў дзеянні і ў прыманні рашэнняў. Ніводзін з іх не павінен застацца ў баку ад дзяржаўнай дзейнасці. Гэтыя працаўнікі будуць выкарыстаны ва ўпраўленнях новастворанах ваяводстваў, а таксама ў іншых звеннях гэтай

# РЭФОРМА

працы). У сярэднім на кожную гміну прыпадае ў павеце 44 працаўнікі разумовай працы, а ў некаторых паветах, з малой колькасцю гмін, — нават каля 100 чалавек. Слушныя і здаровыя амбіцыі павятовых кадраў павінны быць выкарыстаны з большай карысцю.

Цяперашняя рэформа ўводзіць двухступенную структуру мясцовых органаў улады і дзяржаўнай адміністрацыі: гміны і гарады — як першая ступень і ваяводствы — як другая ступень. Знесена будзе 314 паветаў і створана 49 ваяводстваў, у тым ліку тры адзінкі, якія ахопліваюць вялікія гарадскія агламерацыі — Варшава, Лодзь і Кракаў. Вялікія прамысловыя і гандлёвыя цэнтры, цэнтры навукі і культуры, цэнтры медыцыны будуць далей адыгрываць сваю ролю ў макрарэгіёне, незалежна ад павелічэння ў ім колькасці ваяводстваў. Такім чынам, пазіцыя ранейшых сталіц ваяводстваў у жыцці краіны застанецца той самай. Цяперашнія павятовыя гарады, хоць не будуць ужо выконваць адміністрацыйных функцый, змогуць далей усебакова развівацца.

Правы і абавязкі павятовых звенняў адміністрацыі будуць перададзены галоўным чынам органам гмін і гарадоў, якія стануць галоўным звяном у галіне арганізацыі і рэалізацыі агульнадзяржаўных і мясцовых мэт. А ваяводствы будуць выконваць праграміруючыя і каардынуючыя функцыі, нагляд, а таксама разгляд скарг у адміністрацыйным парадку. Ліквідавана будзе павятовая ступень існуючых мясцовых дзяржаўных, кааператыўных і грамадскіх адзінак. Усе будаўнічыя, прадукцыйныя, рамонтныя адзінкі, а таксама адзінкі паслуг для насельніцтва застануцца, як раней, а змена будзе датычыцца толькі іх адміністрацыйнай надбудовы на ступені павету.

Рэформа дасць вымерную карысць. У выніку знясення пасрэднага звяна значна зменшыцца дзяржаўная і спулдзельчая адміністрацыя, а тым самым звольніцца пэўная колькасць штатаў.

Асабліва вялікая ўвага пры правядзенні рэформы звяртаецца на справы кадраў. За мінулыя гады выраслі ў мясцовым апараце адміністрацыі і гаспадаркі самаахвярныя і адданыя кадры працаўнікоў. Шмат

ступені і ў апараце гмін і гарадоў. Найлепшыя павінны заняць кіруючыя пасады. Іншыя атрымаюць працу ў гаспадарчых установах. Таму няма ніякай прычыны баяцца, што хто-небудзь застанецца без працы, якая была б адпаведнай да яго кваліфікацыі. Але рэформа стварае прытым шлях да авансу, самастойнай працы добрым працаўнікам дагэтуляшніх ваяводстваў і паветаў, да выкарыстання іх якасцей і вопыту.

З увядзеннем двухступеннай структуры мясцовай адміністрацыі звязана таксама праблема далейшага ўмацоўвання гмін. Звернута ўвага на тое, каб ваяводскія звенні ўлад і адміністрацыі ад самага пачатку ўзялі над гмінай больш старанную апеку.

У выніку новага адміністрацыйнага падзелу краіны ва ўсіх ваяводствах павінна заўважыцца значнае ажыўленне ініцыятывы ў напрамку павышэння эфектыўнасці гаспадарання, а таксама значны рост актыўнасці рад і самастойнасці ўлад і органаў дзяржаўнай адміністрацыі. Гміны і гарады будуць цяпер знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці да працы і зацікаўленняў ваяводскіх улад. Ваяводствы, створаныя на тэрыторыях, якія развіваліся менш дынамічна, атрымаюць цяпер новыя, значна большыя шанцы.

Пераход на двухступенную структуру мясцовых органаў улады і дзяржаўнай адміністрацыі з'яўляецца вельмі знамянальнай падзеяй. Гэта крок неабходны, калі глянуць на яго з пункту гледжання будучыні развіваючайся краіны. Трэці этап рэформы ўлады і мясцовай адміністрацыі вянчае ўжо ўведзеныя змены, надае ім комплексны характар. Гэта састаўная частка працэсу змен, якія крок за крокам уводзяцца ў дзейнасці партыі, у гаспадарцы і ў грамадскім жыцці, у палітыцы і ў выхаванні, у функцыянаванні дзяржавы.

*(З прамовы П. Ярашэвіча на XVII Пленуме ЦК ПАРП)*



*Гродзенцы сустракаюць беластаччан традыцыйным бохнам хлеба з соллю.*

# МІТЫНГ ДРУЖБЫ

9 мая — у трыццатую гадавіну перамогі над гітлераўскім фашызмам, жыхары Беласточчыны і Гродзеншчыны сустрэліся на мітынгу дружбы, які адбыўся па савецкім баку мяжы ў маляўнічай ваколіцы ля Бераставіцы. Мітынг меў асабліва ўрачысты характар. Сустрэліся на ім савецкія і польскія ветэраны, працоўныя, моладзь.

Дэлегацыі дружалюбных прадпрыемстваў, гарадоў, паветаў і раёнаў Беласточчыны і Гродзеншчыны сустрэліся на лясных палянках. Віталіся, як старыя знаёмыя, сардэчныя сябры. Было аб чым расказаць. Успаміналі мінулыя гады.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Мітынг адкрыў І сакратар Гродзенскага абкома КПБ Леанід Кляцкой.*



*Ветэраны ІІ сусветнай вайны.*



*На заканчэнне мастацкай часткі выступілі з песняй члены хораў і танцавальных калектываў Гродзенскай вобласці і „Курпі зялёныя".*



*З абодвух бакоў мяжы рушылі на спатканне ўдзельнікі мітынгу дружбы.*

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 31.V.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 7.30 Dziecięce kłopoty — film fab. bułg. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o czł. Sprawy 15-latków cz. IV. 10.00 (kl. VII) Zoolog. Ochr. środow. 11.05 (kl. VIII) Geogr. Zagadki geogr. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.20 Hod. zwierz. 15.00 Pr. dnia. 15.05 Pr. I prop. 15.20 Red. Szk. zap. 15.40 Kr. Warsz. i Maz. 16.00 Dzien. 16.10 Brazylia nieznana. 16.45 Pr. rozr. z ok. Dnia Dziecka. 18.00 Wszystko za wszystko z prof. J. Hryniewieckim. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Liliowa akacja — film fab. węg. 21.40 Róże Montreux. 22.35 Dzien. 22.55 Sport. 23.10 Kabaret Star. Panów.

**Niedziela 1.VI.** 6.25 Tech. Rol. Mat. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Pr. z ok. Dnia Dziecka. 10.10 Antena. 10.30 Winnetou wśród sępów — film przyg. 12.10 Dzien. 12.30 Tydzień. 13.15 Klub Sześciu Kont. 14.05 Dla dzieci. 14.35 Nie tylko dla pań. 15.05 Los. Toto-Lot. 15.20 Refl. ob. 15.35 Co kto lubi. 16.35 Lekt. Pegaza. 16.50 Nie wychodź zamąż, mamo — film fiński. 17.40 Sport. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Życie Moliera — śmiech i łzy odc. IV. 21.15 Do usług — mag. satyr. 21.55 Sport. 22.55 Rozmowa — film TVP.

**Poniedziałek 2.VI.** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.50 Nurt — Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.55 Warsz. persp. 18.10 Gra R. Smendzianka 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr: Sheilaigh Dellanoy — Zakochany lew. 21.40 Mistrz. Europy w boksie — elimin. 22.40 Pegaz. 23.10 Dzien. 23.25 Oferty.

**Wtorek 3.VI.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 9.00 Życie Moliera — śmiech i łzy odc. IV. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) W fabryce samochodów. 11.05 (kl. VII) Wych. ob. Są wśród nas. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.40 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Recital pios. grupy „Wawele". 17.40 Stud. Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przyp., radz. 18.45 Biały autobus — film dok. 19.10 To lubię. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Letnia przygoda — kom. film. 21.05 Skandynawia. 21.40 Mistrz. Europy w boksie — elimin. 22.50 Dzien.

**Środa 4.VI.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 10.50 Letnia przygoda — film fab. węg. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 i 15.15 Kurs przyg. Fiz. 15.50 Nurt — Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Latający Holender. 17.15 Inf.-Tow.-Prop. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.35 Sport. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Spotk. z med. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Miłość Elwiry Madigan — film fab. szw. 21.40 Mistrz. Europy w boksie — 1/4 finały. 22.40 Film dok. 22.55 Dzien.

**Czwartek 5.VI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Tech. Rol. Mat. 8.00 i 8.30 Kurs Inf. 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) J. pol. Goethe — Schiller. 10.00 (kl. II lic.) B. Prus. 10.30 Miłość Elwiry Madigan — film fab. szw. 12.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) J. pol. Reportaż. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Ochr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Teleferie. 17.50 Teleturniej. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przyp., radz. 18.45 Kanał Sueski. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Sens. Georges Simenon — „Bracia Rico". 21.25 Mistrz. Europy w boksie — 1/4 finały. 22.40 Czym żyje świat. 23.10 Dzien.

**Piątek 6.VI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Ochr. rośl. 9.00 Dla dzieci. 10.00 Film fab. 12.35 Tech. Rol. J. pol. 13.15 Mat. 13.50 i 14.20 Politech. Kurs przyg. Mat. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Mistrz. Europy w boksie — 1/2 finały. 17.15 Beskidzie, Beskidzie — kto po tobie idzie — film dok. 17.40 Pomysł na lato. 18.00 Por. mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Mistrz. Europy w boksie — 1/2 finały. 22.15 Panorama. 22.55 Dzien. 23.10 Sport.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 30.V.** — 17.50 Film ser. 19.30 Fin. koncert fest. „Kijowska wiosna".
**Sobota 31.V.** — 9.00 Film ser. 10.40 Przegl. międzynar. 12.30 Białoruś literacka. 13.15 Film dla dzieci. 15.15 Cyrk. 16.55 W świecie zwierz. 18.00 Pr. film. 19.30 Panorama film. 21.00 Sport.
**Niedziela 1.VI.** — 10.30 Przegl. film. 11.30 Film fab. 15.00 Panorama międzynar. 16.30 Klub film. 17.30 Wieczór autor. R. Różdiestwienskiego. 21.00 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Y-17 — bułg. 3—4. Polomea — NRD 5—6. Bezbronne nagietki — USA 7—8.

**Czeremcha** Mieć 20 lat w Aures — fr. 3—4. Śladem czarnowłosej dziewczyny — jug. 7—8.

**Czyże** Szaleństwo miłości — nor. Trzy orzeszki dla kopciuszka — NRD 4—8.

**Dubicze Cerkiewne** Prywatny detektyw — ang. Zbrodnia jest zbrodnią — fr. 4—8.

**Gródek** Śmierć wybiera — czes. 7—8.

**Kleszczele** Przygody misia Yogi — USA 3—4. Uciec jak najbliżej — pol. 5—6. Niech bestia zdycha — fr. 7—8.

**Michałowo** Zawieszeni na drzewie — fr. 3—4. Port lotniczy — jug. 5—6. Sutjeska — jug. 7—8.

**Mielnik** 100 karabinów — USA 4. Czwarta pani Anderson — hiszp. 7—8.

**Milejczyce** Bokser — pol. 3—4. Gwiazdy są oczami wojownika — jug. 5—6. Urodziny Matyldy — pol. 7—8.

**Narew** Śmierć wybiera — czes. Wybacz i żegnaj — rum. 4—8.

**Narewka** Swobodny oddech — czes. Zapis zbrodni — pol. 4—8.

**Nurzec** Między wrześniem a majem — pol. 3—4. Tu radio Gliwice — NRD 5—6. Dramat namiętności — nor. 7—8.

**Orla** Wódz Prusów — radz. Życie dla miłości — jug. 4—8.

**Rajsk** Ostatni nabój — rum. Pułapka na generała — jug. 4—8.

**Suchowola** Drogi do ojczyzny — pol. Bezdomny — bułg. 4—8.

B.Z.Graf. zam. 1603 P-1



 

# Колькі будзе?..

Тата чытае газету. Сын дашкольнік пытае:
— Тата! Колькі будзе 2 і 2?
— Спытай у мамы. Я заняты...
Хлопчык пайшоў на кухню з тым жа пытаннем.
— Спытай у таты, ён матэматык, — параіла мама, не адрываючыся ад свайго занятку.
Сын вярнуўся да таты.
— Тата, ты матэматык? А што гэта такое?
— Спытай у мамы. Яна педагог, а мне не перашкаджай, калі ласка.
— Пе-да-гог? — перапытаў хлопчык і падаўся зноў да мамы.
— Мама! А што такое?.. — слова ён забыў і застыў у роздуме з пальцам у роце.
—Дзяніска, вынь палец з рота, — загадала мама.
— Не перашкаджай мне думаць, — агрызнуўся малы. — Ой, ведаю, ведаю! — запляскаў у далоні. — Будзе ча-ты-ры.
Маці кінула патэльню, выцерла рукі і амаль педагагічна спытала:
— Як ты дадумаўся?
— А я падлічыў. Два разы я звяртаўся да таты і два разы ён пасылаў мяне да цябе. А разам я хадзіў ад таты да цябе і ад цябе да таты ча-ты-ры разы.
— Малайчына! — пахваліла мама і тройчы пацалавала сына.
Тата азваўся з канапы.
— Вось так і трэба развіваць матэматычныя здольнасці ў дзяцей.

**А. Саскавец**

## Байка пра кошачку Мурку

*Весняй часінкаю ў цёмным завулку*
*Стрэў коцік Вася чароўную Мурку.*
*Лапку на шыйку той кісцы паклаў*
*І замурлыкаў пяшчотна: „Мяў-мяў".*
*Потым на вушка шапнуў ціха ёй:*
*„Стань, кіска мілая, жонкай маёй!"*
*Мурка калматы свой хвост распушыла,*
*Коціку Васю ўсміхнулася міла,*
*А папаткаўшы ля веснічак маму,*
*Ёй прашаптала: „Выходжу я замуж".*
*„Кіска мая, пачакай яшчэ трошкі, —*
*Сумна сказала старэнькая кошка, —*
*Хутка наш тата прыйдзе з палявання,*
*Мо не адобрыць твайго ён кахання".*
*„Кінь ты расказваць мне казкі свае,*
*Татачка наш ад жыцця адстае", —*
*Крыкнула Мурка матулі са злосцю*
*І палящела да любага ў госці,*
*Ды без бацькоў у той вечар вясенні*
*Справіла хуценька з Васем вяселле...*
*Дзе ж тыя песні вясёлай пары?*
*Сумная Мурка сядзіць у двары,*
*А ле Вася з другой ужо Муркай,*
*Дзесь бесклапотна гуляе ў жмуркі.*

*Прымаўку вам нагадае мой верш:*
*Сем раз адмерай, а потым адрэж.*

**Браніслаў Мароз**

# НІЎКА

## З ТАГО СВЕТУ

— Сынок наш многа ілбом буцае, мабыць, рожкі адрастаюць.

## РАЙТУЗЫ

Выхавацелька дзіцячага саду патрацiла 15 мінут, каб нацягнуць райтузы на маленькую дзяўчынку. Калі яна ўрэшце выпрасталася, дзяўчынка сказала:
— Гэта не мае!
Праклінаючы ўсё на свеце, выхавацелька патраціла яшчэ 15 мінут, каб сцягнуць райтузы назад.
— Гэта майго брацікa, — сказала дзяўчынка, — толькі мама часам надзявае іх на мяне!

ГУМАР З

## ХІТРЫ ХЛОПЕЦ

— Мама, дайце мне гароху.
— Добра, вазьмі сабе поўную жменю.
— Аж поўную жменю? То вы, мама, дайце самі, бо ваша жменя большая.

— Вазьміце, калі ласка, яшчэ і гэта!

## КІНУЎ КУРЫЦЬ

Сын-сямікласнік пытае:
— Тата, калі ты кінеш курыць?
— Хацеў бы, ды гэта не так лёгка.
— Пхе! Не надта і цяжка — я ж ужо кінуў!
— Ты-ы?! Калі?!
— Яшчэ ў пятым класе!

## ГАЛІВУДСКІ

Адно галівудскае дзіцё гаворыць другому:
— У мяне новы тата, і ён вельмі вядомы. Яго завуць Рокі Бул.
— Ах, гэты! — кажа другі хлопчык. — Ён нічога. Ён быў маім татам яшчэ ў мінулым годзе.

## СЫНОК

— Мама, мне вельмі не хочацца ісці ў школу, — гаворыць сын маці.
— Але, чаму, дарагі?
— Усе мяне там ненавідзяць. Педагогі, вучні, нават гардэробшчыца коса на мяне паглядае.
— Нічога, сынок, гэта пройдзе. Вазьмі снеданне і адпраўляйся. Урэшце табе ўжо мінула пяцьдзесят і ты дырэктар школы.

## НЕ РАЗГУБІЛАСЯ

Селі дзве бабулі каля трохгадовай Алесі і кажуць:
— Расці хутчэй, унучка, ды хлебам нас, старых, карміць будзеш.
Алеся задумалася, пасядзела моўчкі, потым цяжка ўздыхнула і кажа:
— Што ж, давядзецца ў хлебны магазін ісці працаваць.

...Верх какецтва: другакласніца выдае сябе за першакласніцу.

...Успаміны дзяцінства былі яму асабліва дарагія: яго насілі тады на руках.

## МАЛЕНЬКІ СХОД

— Тата, — сказаў Янка, — у мяне для цябе даручэнне: заўтра раніцай у школе адбудзецца маленькі сход вучняў, бацькоў і настаўнікаў.
— Што ты маеш на ўвазе, гаворачы „маленькі сход"?
— Гэта толькі ты, я і класны кіраўнік.

## АДГАДАЎ

— Васілёк, ану адгадай загадку, — сказала Марынка свайму меншаму брацiку. — Полем бяжыць заяц, а за ім гоняцца два сабакі — белы і чорны. Якога сабакі заяц будзе баяцца больш?
— Белага, — адказвае хлопчык.
— А чаму?
— Бо заяц падумае, што той раздзеўся, каб хутчэй бегчы.

У турпаход сабраўся.

## ТАК І РОБІЦЬ

— Памятай, сынок! Спачатку трэба мыць рукі, а потым твар, — павучае бацька.
— Я так і раблю. Учора памыў рукі, а сёння твар.

— Удзялі дзіцяці хоць крыху ўвагі!

# Курёзы

## ЗА ПРАВА НА АДПАЧЫНАК

Па рашэнню губернатара Токіо ўсім звярам у заапарках цяпер будуць даваць два выхадныя дні ў месяц, каб адпачыць ад людзей. Спецыялісты звярнулі ўвагу, што па панядзелках звяры вельмі нервовыя і ўзбуджаныя. Гарылы кідаюць у людзей камякі гразі, сланы і марскія львы спрабуюць апырскаць вадой найбольш надакучлівых наведвальнікаў, а цюлені хаваюцца надоўга пад вадой. Такія паводзіны звяроў тлумачаць іх вялікай псіхалагічнай нагрузкай па нядзелях, калі звярынцы наведвае найбольшая колькасць людзей.

## „СЯДЗЯЧЫ СЛОН АДПАЧЫВАЕ"

Неапалітанец Бруна Фарыні вяртаўся дадому ў вясёлым настроі ў толькі што набытым „Фіяце" апошняй мадэлі. Мармычучы сабе пад нос нейкую мелодыю, Бруна прыпыніўся, каб паглядзець на вандроўны цырк, які цягнуўся па вуліцы. Пры гэтым яго аўтамабіль крыху закрануў старую сланіху, якая ўзначальвала працэсію. Можа быць, таму, а можа быць сланіха проста стамілася і вырашыла адпачыць, толькі яна нечакана выканала свой каронны цыркавы нумар „Сядзячы слон адпачывае". З бачным задавальненнем сланіха ўселася на новенькі аўтамабіль Бруна.
Уладальнік паспеў выскачыць, а ад прыгожага „Фіята" застаўся бясформенны праснак. З прычыны незвычайнасці выпадку судовая справа аб пакрыцці матэрыяльнай страты пацярпеўшаму зацягнулася.

Смяецца з намі

*І ў школе жыцця можна быць другагоднікам.*